# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№6 (241)

чэрвень 2022

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**








# ПАДАРУНАК ДЛЯ ДЗЕТАК АД "БУДЗЬМА": ВІДЭАКНІГА-ЧЫТАНКА ПА-БЕЛАРУСКУ



На ютуб-канале "Будзьма" выйшла відэакніга "Чытанка для маленькіх". Відэакнігу можна можна і ГЛЯДЗЕЦЬ, і СЛУХАЦЬ, і ЧЫТАЦЬ адначасова. Укладальнікі кнігі – вядомыя знаўцы беларускай мовы Вінцук Вячорка і Пётра Садоўскі.

Казкі і вершы з малюнкамі на роднай мове для дзетак дашкольнага ўзросту агучылі Аня Хітрык і Павел Харланчук.

У "Чытанцы" сабраныя народныя, а таксама аўтарскія вершы і казкі, калыханкі і гульнёвыя прыпеўкі для дзетак да трох гадоў.

Мастачка – Святлана Канькова-Дударэнка. Музыка – Аня Хітрык.

budzma.org

навіны

# 4 ЛІПЕНЯ ЮБІЛЕЙ СВЯТКУЕ ГАННА СУРМАЧ!

4 ліпеня юбілей святкуе вядомая грамадская дзяячка і гісторык Ганна Сурмач!

Спадарыня Ганна больш за дзесяць гадоў узначальвала Цэнтральны дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва Беларусі, пасля кіравала суполкай чэшскіх беларусаў "Скарына", шмат гадоў займала пасаду старшыні Галоўнай управы Беларуска-Амерыканскага задзіночання (БАЗА) і была галоўнай рэдактаркай легендарнай газеты "Беларус". Яе аўтарству належаць кнігі "Беларусь без межаў", "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці", "Першы з'езд беларусаў свету", цыкл перадач на "Свабодзе", прысвечаных беларускай дыяспары... Усіх справаў, звязаных з беларускай дыяспарай і справай пашырэння культурнай спадчыны беларускага замежжа, у якіх спадарыня Ганна брала ўдзел, не пералічыць!



Але нам імя спадарыні Ганны Сурмач дарагое ў першую чаргу праз яе выключную ролю і ўдзел у нараджэнні і першых гадах жыцця "Бацькаўшчыны". Бо была сярод заснавальнікаў арганізацыі ў 90-я – узначальвала Рабочую групу па правядзенні Першага з'езда беларусаў свету і на ім была абрана старшынёй Рады, прапрацаваўшы на гэтай пасадзе аж да самага ад'езду з краіны ў 1999 годзе.

Сардэчна віншуем Ганну Сурмач з юбілеем! Зычым моцнага здароўя, светлага настрою і натхнёнай плённай працы ва ўлюбёнай справе!

**Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

# ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ У НЯВОЛІ СКЛАЎ ВІКТАРЫНУ "ДРЭВА ЖЫЦЦЯ"

Пра складзеную палітвязнем віктарыну паведаміла ў фэйсбуку яго жонка Вольга Севярынец.

"Ва ўсім кашмары, які навокал, я вынайшла для сябе формулу выжывання – не наракаць, маліцца, дапамагаць, рабіць, што можаш, і імкнуцца хоць кропкава змяніць тое, што не дае супакою, – піша Вольга Севярынец. –

Думаю, што па такім жа прынцыпе дзейнічае і Павел. Сёння мы скончылі дапрацоўваць віктарыну, якую Паша складаў каля двух год, седзячы на Валадарцы, у Магілёве і Шклове.

330 пытанняў, 10 тэмаў – хрысціянская віктарына "Дрэва жыцця", прысвечаная вядомым людзям, падзеям, паняццям, а таксама беларусам, якія верылі ў Бога і змянялі гэтую краіну. 330 цікавых фактаў, пры чытанні якіх раз-пораз у галаве мільгае думка: "Нішто сабе!"

Цяпер мы пускаем віктарыну ў плаванне – як хлеб па водах. Па спасылцы яна будзе даступная для спампоўвання. Ведаю, што некаторыя цэрквы ўжо выкарыстоўвалі віктарыну для сваіх моладзевых служэнняў. У ідэале мы хочам стварыць з яе мабільную гульню. Мы ўпэўненыя, што яна будзе карысная многім. Будзем чакаць і вашых ідэй па выкарыстанні.



Дзякуем усім, хто дапамагаў, вычытваў, правяраў, дасылаў Пашу патрэбныя факты – Ганне Кірушкінай, Алегу Данелюку, Паўлу Булатаму, Уладзіславе Калядзе, Надзеі Смірновай, Анастасіі Шылак, Наталлі Цымбаліст, Алене Казлоўскай, Міхаілу Макрацову, Аляксею Шэйну, Людміле Пятроўскай, Іне Мудрачэнка.



Праз нашыя маленькія і вялікія супольныя высілкі, з кожнай добрай справай гэты светстановіцца лепш!"

Прайсці віктарыну можна па спасылцы.

**budzma.org**

# У ГЕРМАНІІ САБРАЛІ СРОДКІ ДЛЯ ГУРТА IRDORATH

На фестывалі сярэднявечнай і фолк-музыкі Feuertanz, які праходзіў у Абенбергу (Германія) 24-25 чэрвеня, сабралі сродкі для ўдзельнікаў гурта Irdorath, якія адбываюць тэрмін у калоніі.

Усяго было сабрана 4 тысячы еўра. Усе сродкі пойдуць на "элементарныя патрэбы" артыстаў.

Музыкаў Irdorath затрымалі ў жніўні 2021 года. Іх прызналі вінаватымі па артыкуле 342 КК ("Арганізацыя або падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх"). Муж і жонка Уладзімір і Надзея Калач атрымалі па два гады калоніі, Антону Шніпу і Юліі Марчанцыпрысудзілі паўтара года калоніі. Музыкі прызнаныя палітвязнямі. Падтрымайце музыкаў лістамі:

Калач Уладзімір Аляксандравіч

ПК №3, 211300, п. Віцьба, Віцебская вобл, Віцебскі раён, 10 атрад

Калач Надзея Рабертаўна

ПК-4, вул. Антошкіна, 3, г. Гомель, 246035

Шніп Антон Валер'евіч

ПК-1, вул. Тэхнічная, 8, г. Наваполацк, Віцебская вобл., 211445

Марчанка Пётр Пятровіч

ПК №3, 211300, п. Віцьба, Віцебская вобл, Віцебскі раён, 8 атрад

Марчанка Юлія Анатольеўна

ПК-4, вул. Антошкіна, 3, г. Гомель, 246035, 15 атрад

**reform.by**

навіны

# ПРАЙШОЎ ГОД ПАСЛЯ ЗАТРЫМАННЯ ЭКСПЕРТКІ ТАЦЦЯНЫ КУЗІНАЙ

28 чэрвеня споўніўся год, як у турме знаходзіцца палітолаг, даследчыца, адна з заснавальніц праекта SYMPA (Школа маладых менеджараў у сферы публічнага адміністравання) Таццяна Кузіна, паведамляюць яе калегі.



Таццяна была затрыманая 28 чэрвеня 2021 года ў аэрапорце "Мінск", калі адпраўлялася ў кароткатэрміновую паездку ў Грузію. Ёй выстаўленыя абвінавачванні паводле двух сур'ёзных артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Змова з мэтай захопу ўлады неканстытуцыйным шляхам" (ч. 1 арт. 357) і "Заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Рэспублікі Беларусь" (ч. 3 арт. 361).

Аднак сутнасць абвінавачванняў, прычыны затрымання Таццяны і тым больш яе ўтрымання пад вартай на працягу такога доўгага тэрміну застаюцца невядомымі. Як і ў выпадку многіх іншых палітычных зняволеных, адвакат Таццяны знаходзіцца пад падпіскай аб неразгалошванні, а ў яе блізкіх і сяброў няма ніякіх магчымасцяў даведацца нейкія падрабязнасці па яе справе. Няясна, калі гэтая справа будзе перададзена ў суд ці калі можна (калі можна) чакаць нейкага іншага развіцця падзей. Адзінае, што дакладна можна сказаць пра справу Таццяны, – яна не здзяйсняла нічога з таго, што гучыць у артыкулах па яе абвінавачванні. Адзіная "віна" Таццяны ў тым, што яна па-сапраўднаму высакакласная спецыялістка і вельмі добры чалавек.

На жаль, на сённяшні дзень у Беларусі столькі пасаджаных без усялякіх рэальных прычын палітычных зняволеных, што трагічныя гісторыі кожнага/кожнай з іх у нейкай ступені "перакрываюцца" гэтымі складанымі для ўспрымання лічбамі. І кожны дзень мы даведаемся ўсё новыя і новыя гісторыі затрыманняў, катаванняў, пераследаў і інш. Аднак усе роўна важна расказваць гісторыю кожнага/кожнай з палітычных зняволеных, хоць бы з такіх сумных нагодаў, як гадавіны знаходжання ў зняволенні.

Таццяна Кузіна добра вядомая ў экспертнай, акадэмічнай і даследчыцкай супольнасці Беларусі, а таксама сярод тых, хто так ці інакш даўно ўцягнуты ў трэці сектар. Хтосьці ведае Таццяну па працы ў Беларускім інстытуце стратэгічных даследаванняў (BISS), дзе яна была адміністрацыйнай дырэктаркай. Хтосьці – па працы ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце (ЕГУ), калі ён быў яшчэ ў Мінску ці ў першыя складаныя гады пераезду ў Літву, калі Таццяна дапамагла з узнаўленнем універсітэта пасля яго палітычна матываванага закрыцця ў Беларусі ў 2004 годзе, дапамагала многім студэнтам і супрацоўнікам з рашэннем розных пытанняў. Хтосьці ведае Таццяну як экспертку і даследчыцу, якая працуе з многімі цікавымі тэмамі, прычым не толькі на нацыянальным, але і міжнародным узроўні. Многія сустрэлі і ведаюць Таццяну па SYMPA, па яе даследаваннях аб грамадзянскай супольнасці і дзяржаўным кіраванні, па яе лекцыях аб грамадзянскім удзеле і ўдзеле ў розных дыскусіях і абмеркаваннях.

Сёння, у дзень, калі спаўняецца год з таго моманту, як Таццяну, якая ніколі не рабіла нічога дрэннага, затрымалі ў аэрапорце, важна падумаць пра яе. Расказаць тое добрае і важнае, што трэба ведаць пра яе "гораду і свету". Важна ведаць і памятаць, што рэпрэсіі супраць як асобных экспертаў/экспертак, так і даследчых цэнтраў у Беларусі маюць сістэмны характар. Большасць раней вядомых арганізацый (уключаючы SYMPA) ліквідаваныя або знаходзяцца ў працэсе ліквідацыі, а пад следствам і ў зняволенні знаходзяцца добра вядомыя прадстаўнікі/прадстаўніцы экспертнай супольнасці, уключаючы асуджанага да пяці гадоў узмоцненага рэжыму філосафа Уладзіміра Мацкевіча, экспертку Валерыю Касцюгову, якая знаходзіцца ў СІЗА, асуджаную да двух з паловай гадоў "хіміі" сацыёлага Таццяну Вадалажскую і інш.

Самы просты спосаб падтрымаць Таццяну Кузіну і іншых палітвязняў – гэта напісаць ім ліст, адправіць паштоўку ці тэлеграму. Таксама можна зрабіць сімвалічны грашовы пераvod або адправіць бандэроль. Гэта дапамагае нашым несправядліва зняволеным сябрам і калегам трымаць сувязь са знешнім светам і атрымліваць сігналы аб тым, што мы разам з імі.

novychas.online

вайна

## ЯК МОЖНА ДАПАМАГЧЫ УКРАІНЕ

**1. Нацбанк Украіны адкрыў спецыяльны дабрачынны рахунак дапамогі краіне**



**2. Збор сродкаў у Польшчы**



**3. "Беларускі моладзевы хаб" збірае гуманітарку, забірае і размяшчае людзей**



**4. Partyzanka Freeshop збірае гуманітарную дапамогу**



навіны

# У ВАРШАВЕ МОЖНА НАБЫЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРЫ Ў МАСТАЦКІМ АФАРМЛЕННІ

Беларуская мастачка аформіла ўсе беларускія літары тэхнікай, якая нагадвае макрамэ.

Незвычайная выстава працуе ў Беларускім моладзевым хабе ў Варшаве. Гэта праект беларускай мастачкі і дызайнеркі Кацярыны Пікірэні. Яна аформіла ўсе беларускія літары тэхнікай, якая крыху нагадвае макрамэ. Аўтарка таксама дадала ў свой алфавіт украінскую літару ї (й), каб падтрымаць украінцаў, калі пачалася вайна.

– 32 літары беларускага алфавіта і адна ўкраінская. Вырас гэты праект з дызайну для кнігі Вальжыны Морт "Песні для мёртвых і ўваскрэслых". Я зразумела, што я не магу спыніцца, буду працягваць вывучаць форму нашых літар, яе метафізіку. А калі пачалася вайна, я ўжо не магла думаць пра беларускія літары і вырашыла дадаць адну ўкраінскую ї, каб падтрымаць духоўна ўкраінцаў.

**– Цяпер беларускі алфавіт кірылічны, але калісьці адбывалася дыскусія, ці не варта было б прыняць лацінскі алфавіт. Як вам такая ідэя?**



– Мне больш падабаецца кірыліца, яна лепш адпавядае гукавой сістэме нашай мовы, тут ёсць такія літары, як ч і ж. Кірыліца не мусіць спыняцца ў сваім развіцці, мадыфікавацца. Цяпер сітуацыя з беларускай мовай складаная, але пасля ўсіх гэтых падзей, калі я прыехала ў Беларусь, заходзіла ў краму, то людзі ўсміхаліся, калі чулі мову. Можа, гэта адкрыццё беларусаў, якія раней не задумваліся над гэтымі пытаннямі, а цяпер, калі яны нават самі не размаўляюць па-беларуску, яны адчуваюць пашану і радасць, калі чуюць гэтую мову ад кагосьці.

Кацярына Пікірэня выставіла свае працы на продаж і ў размове з намі абяцала, што даход будзе прызначаны на падтрымку беларусаў, якія былі прымушаныя выехаць ва Украіну з Беларусі ў выніку рэпрэсіяў, а цяпер ім прыйшлося збегчы і з Украіны.

**budzma.org паводле polskieradio.pl**

# ЧАСОПІС МІНКУЛЬТ ПЕРАЕХАЎ У ВІЛЬНЮ

За летні сезон плануецца выдаць два нумары, паведамляе рэдактар часопіса Сяргей Календа.

"Мы адразу працуем над стварэннем двух нумароў, адзін прысвечаны "Падарожжам і эміграцыі", другі – вайне ва Украіне. Апошнія гады, месяцы, тыдні, рэвалюцыя, каранавірус і вайна зрабілі мільёны людзей уцекачамі, бежанцамі, людзьмі, якія вымушаныя былі абіраць іншыя краіны для жыцця. Гісторыя кожнага вартая быць агучанай, прачытанай, бо гэта наш агульны скарб, наш шанц – пачаць вучыцца жыць без вайны і без турмы. Мы ўжо паспяхова выдалі чатыры нумары:






Першы, Цэнзурны, Фантастычны і Калядны, апошні нумар быў разасланы поштаю (а гэта каля 300 асобнікаў) усім сябрам, якія калісьці ўжо падтрымлівалі часопіс і шчыра ўдзельнічалі ў краўдфандынгу. "Мінкульт – Вірус і Выбары", у друкарні – чакае свайго часу", – піша рэдактар.

Часопіс супраць цэнзуры, супраць любых камітэтаў, якія спрабуюць кантраляваць мастацтва. Тэксты, якія на дадзены момант збіраюцца ў новыя нумары, афіцыйна і празрыста ніхто надрукаваць не можа, гэта гісторыі, якія могуць застацца ляжаць схаванымі ў стале і на дыску, але нам неабходна агучыць і паказаць усім, што і як адбываецца навокал. У кожнага нумара ёсць свой пісьменнік з падвокладкі: Букоўскі з бутэлькай, Хэмінгуэй з кубкам, Філіп Дзік у матрыцы, Джордж Оруэл у балаклаве. На Калядным часопісе Дыкенс напалмам паліць елку: гары яно гарам, як гавораць беларусы.

У "Мінкульта 6 – Падарожжа і Эміграцыя" Даніэль Дэфо сядзіць у чарзе эмігрантаў на выспе Амерыкі, а ў "Мінкульта 7 – Вайна" Тарас Шаўчэнка глядзіць на нас па-філасофску асуджальна і з цеплынёй.

"Мінкульту" патрэбныя сродкі, каб надрукавацца і аплаціць працу вярстальніка, дызайнера і рэдактара, а таксама выплаціць ганарары пісьменнікам, якія ўдзельнічаюць у стварэнні часопіса.

Падтрымаць праект можна па спасылцы.

**budzma.org**

навіны

# Беларуска Кракава: дзеці разумеюць, што адбываецца ў Беларусі. Магчыма іх боль нават мацнейшы

Беларускамоўны дзіцячы тэатр "Дзеці суседзяў" даў сваю першую прэм'еру – "Прыгоды цыбулькі".

Надоечы ў Кракаве падчас фестывалю "Культура ў выгнанні", які ладзіла "Віла Дэц'юша", адбылася незвычайная імпрэза. Беларускамоўны дзіцячы тэатр "Дзеці суседзяў" даў сваю першую прэм'еру – "Прыгоды цыбулькі", паводле аднайменнай байкі Джані Радары. Ля вытокаў тэатра стаяла Вольга, якая пераехала ў Кракаў з Беларусі пару гадоў таму:

– Яшчэ ў Мінску займалася аматарскім тэатрам, выкладала дзеткам мову. Яшчэ тады ў мяне з'явілася мара паставіць дзіцячы спектакль на менавіта на беларускай мове. Мне здаецца, што калі ў маленстве ўдзельнічаеш у нечым падобным, граеш у спектаклі, завучваеш ролі, то гэта ўжо назаўжды застанецца з табою. Наш тэатр служыць на самой справе галоўнай нашай мэце – захаваць нацыянальную ідэнтычнасць, нават тут, на чужыне. У дзяцей і дарослых, якія любяць сваю культуру, павінна быць магчымасць праяўляць гэта. (...)




Выбар спектаклю "Прыгоды цыбулькі" быў невыпадковы. На жаль, лёс казачнай садавіны і гародніны з твору Джані Радары шмат у чым супадае з лёсам беларусаў, кажа Кацярына Дошчачка з кракаўскага тэатра "Дзеці суседзяў":

– З Воляй доўга разважалі аб тым, які спектакль мы павінны ставіць першым. Прыйшлі да высновы, што ў казцы "Прыгоды цыбулькі" вельмі востра паказана сацыяльная праблема, якая зараз вельмі блізкая беларусам. А героі казкі – садавіна і гародніна – дазваляюць і дзецям, і дарослым счытваць кожнаму сваю гісторыю. Для нас таксама вельмі важна, што пастаноўка адбываецца па-беларуску. Падчас падрыхтоўкі дзеці спакваля вывучалі мову, а зараз яна для іх робіцца нечым сваім, натуральным. (...)

Маці аднаго з актораў Алеся кажа, што дзеці, нягледзячы на ўзрост, з поўным асэнсаваннем гралі свае ролі:

– Мой сын граў ролю Гарбузіка. Яна для нас вельмі важная, бо Гарбузік увасобіў вобраз усіх беларусаў, якія зараз за кратамі. Для нашай сям'і гэта трапяткое пачуццё, бо вельмі шмат нашых беларусаў зараз несправядліва знаходзяцца за кратамі. Нашыя дзеці ведаюць пра гэта, мы вымушаны з імі пра гэта размаўляць. Інакш немагчыма, дзеці – наша будучыня, і мы павінны іх выхоўваць. Дзеці разумеюць, дзеці гэта перажываюць. Напрыклад, мой сын перад сном моліцца за беларускіх вязняў. Ён таксама перажывае гэты боль, магчыма, дзіцячы боль мацнейшы за боль дарослага. (...)

Застаецца толькі спадзявацца, што як і персанаж Андрэя – Гарбузік – беларусы калісьці стануць сапраўднымі гаспадарамі ў сваім доме.

polskieradio.pl

# Выйшаў альбом беларускіх святочных строяў канца XIX стагоддзя




Спявачка, кінавытворца і прадзюсарка Воля Дземка, якая жыве ў Сіэтле (ЗША), і яе фальклорны гурт VOLYA выдалі альбом, у якім прадстаўлена беларускае святочнае адзенне канца XIX – пачатку XX стагоддзя па рэгіёнах. Альбом зроблены на падставе адной з найбуйнейшых калекцый беларускіх строяў у свеце па-за межамі Беларусі.

Усе камплекты, якія знаходзяцца ў калекцыі амерыканскай беларускі Волі Дземкі і фальклорнага гурта VOLYA з Сіэтла (сабраны 15 з прыкладна 30 варыяцый народных беларускіх строяў) – тыя самыя традыцыйныя строі, з любоўю сабраныя з розных крыніц, ад беларускіх вёсачак да міжнародных аўкцыёнаў, і адрэстаўраваныя рукамі майстрых.

На сёння ў калекцыі 32 поўныя камплекты жаночага і 3 камплекты мужчынскага адзення з 234 прадметаў і аксесуараў, што датуюцца 1880–1940-мі гадамі, якія вы можаце пабачыць на 140 старонках поўнакаляровага альбома Волі. Падрабязнасці па спасылцы.



budzma.org

**кнігі**

# У ЗША ВЫЙШАЎ РАМАН АЛЬГЕРДА БАХАРЭВІЧА "ДЗЕЦІ АЛІНДАРКІ"

Кнігу пераклалі Джым Дынглі і Пэтра Рыд, раман выйшаў у прэстыжным выдавецтве New Directions, піша літаратарка Юля Цімафеева ў сваім Facebook.

"Маніфест выжывання беларускай мовы і душы, "Дзеці Аліндаркі" – гэта яшчэ і перакладчыцкі подзвіг. Лаўрэат прэміі Англійскага ПЭНа, раман бліскуча перададзены на англійскую з рускай і шатландскую з беларускай: і беларуская, і шатландская мовы ў Атласе моваў UNESCO залічаныя ў мовы пад пагрозай знікнення", – напісана ў выдавецкай анатацыі.

На мове арыгінала гэты раман Бахарэвіча выйшаў яшчэ ў 2014 годзе ў беларускім выдавецтве "Галіяфы". "Дзеці Аліндаркі" быў выбраны ПЭН-цэнтрам кнігай года ў намінацыі прозы ў 2015 годзе. Тады ж раман заняў трэцяе месца ў прэміі Ежы Гедройца.

У 2018 годзе ў Францыі ў выдавецтве Le Ver à soie гэты раман упершыню пераклалі з беларускай на французскую мову і выдалі.

Выдавецтва New Directions было заснаванае ў 1936 годзе, сярод яго аўтараў былі лаўрэаты Нобелеўскай прэміі, як Барыс Пастэрнак, Жан-Поль Сартр, Эліяс Канэці і інш.

**budzma.org**




# КНІГІ АЛЬГЕРДА БАХАРЭВІЧА І АНДРЭЯ АДАМОВІЧА ТРАПІЛІ Ў ДОЎГІ СПІС ПРЭСТЫЖНАЙ ПОЛЬСКАЙ ПРЭМІІ ANGELUS

Польскія пераклады раманаў "Сарока на шыбеніцы" Альгерда Бахарэвіча (пер. Яна Максімюка) і "Песня пра Цімура" Андрэя Адамовіча (пер. Багдана Задуры) – у доўгім спісе літаратурнай прэміі Цэнтральнай Еўропы Angelus.

Журы абрала 14 кніг са 100.

Пераможца будзе абвешчаны 15 кастрычніка.

**budzma.org**






Прэмія імя Алеся Адамовіча

# СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ЛАЎРЭАТЫ ПРЭМІІ ІМЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

Лаўрэаты прэміі імя Алеся Адамовіча былі абвешчаны ў Кракаве на фестывалі інтэлектуальнай кнігі "Прадмова".

Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра Таццяна Нядбай абвесціла чатырох лаўрэатаў прэміі імя Алеся Адамовіча за 2021 год.

Сярод іх – газета "Новы час" і яе рэдактарка Аксана Колб.

– Я хацела б абвясціць чатырох лаўрэатаў прэміі імя Алеся Адамовіча за 2021 год: газета "Новы Час" і яе рэдактарка Аксана Колб і ўвесь калектыў газеты; кніга, прысвечаная расстраляным пісьменнікам 30-х гадоў XX стагоддзя, якая выйшла ў Менску ў выдавецтве Янушкевіча, – "(Не)расстраляныя"; паэтычны дзённік Дзмітрыя Строцава "Беларусь перакуленая"; Вольга Шпарага з кнігай "У революции женское лицо. Случай Беларуси".

Прэмія імя Алеся Адамовіча была заснаваная Беларускім ПЭН-цэнтрам у 1995 годзе і ўручаецца за найлепшыя публіцыстычныя публікацыі года.

**budzma.org**

навіны

# БЕЛАРУСЫ СТВАРАЮЦЬ КУЛЬТУРНЫЯ ПРАЕКТЫ Ў ПАДТРЫМКУ УКРАІНЫ

Першы прэзентавалі ў Вільні.

Беларускія культурныя менеджаркі Надзея Ількевіч і Таццяна Штэйнбук аб'ядналіся ў ініцыятыву Create Culture Group, якая падтрымлівае і развівае культурны і крэатыўны сектар у Беларусі. Зараз з нагоды актуальных у свеце падзей з'явіўся новы праект – анлайн-рэзідэнцыя Cultural Bridge. Асноўная мэта ініцыятывы – падтрымка Украіны. Да арганізатараў прыйшло больш за 60 зваротаў на ўдзел, але толькі 3 былі выбраны для рэалізацыі сваіх ідэй. 11 чэрвеня ў Вільні адбылася прэзентацыя першага праекта.



У межах рэзідэнцыі, якая працягнецца да канца чэрвеня, тром удзельнікам з Вільні, Варшавы і Тбілісі трэба было распрацаваць індывідуальны або сумесны культурны праект па тэме салідарнасці з Украінай і рэалізаваць яго ў сваім горадзе. Фармат праекта мог быць любы: перформанс, флэшмоб, акцыя і г. д. Важна, каб украінскія прадстаўнікі крэатыўнага і культурнага сектара таксама бралі ўдзел у рэалізацыі праекта, ініцыятывы або былі таксама мэтавай аўдыторыяй.

Такім чынам, сёння 11 чэрвеня ў дворыку Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта першы праект прэзентаваў удзельнік з Вільні Вячаслаў Красулін. Ён прадставіў фальклорны інтэрактыўны канцэрт "Гучна". Праект прапануе культурную інтэграцыю двюх народаў праз традыцыйныя беларускія і ўкраінскія спевы, а таксама спеўныя і танцавальныя майстар-класы. Галоўная мэта імпрэзы – пазнаёміць шырокае кола жыхароў Вільні з беларускімі і ўкраінскімі спеўнымі і танцавальнымі традыцыямі. Сярод выступоўцаў – гурт традыцыйных спеваў "Беларускі цуд" (BLR), фальклорны гурт Slavalachia (UA+USA+BLR), а таксама клуб традыцыйнага танца "Ойра" (BLR).

"Мы зладзілі імпрэзу беларусаў і ўкраінцаў, на якой кожны змог адчуць яднанне. Дзякуючы гэтаму мы далучаемся да вялікай суполкі людзей, якія праз культуру і мастацтва збліжаюць нашыя народы. Акрамя гэтага, нам патрэбна карыстацца ўсімі магчымасцямі, каб падтрымаць нашых сяброў з Украіны", – гаворыць аўтар праекта Вячаслаў Красулін.

Падрабязнейшую інфармацыю аб анлайн-рэзідэнцыі можна знайсці на www.createculture.group.

budzma.org



# БЕЛАРУСЫ ДАПАМАГАЮЦЬ УКРАІНЦАМ РАТАВАЦЬ УНІКАЛЬНЫЯ АРХІВЫ



Беларусы дапамагаюць украінцам ратаваць унікальныя архівы этнаграфічных запісаў музыкі. Пра гэта на сваёй старонцы ў Facebook распавёў дудар, этнограф Яўген Барышнікаў, які застаецца ў Львове.

Гаворка ідзе пра ўнікальную калекцыю матэрыялаў, што захоўваецца ў Лабараторыі музычнай этналогіі пры Львоўскай кансерваторыі.

"Ад пачатку вайны супрацоўнікі Лабараторыі заняліся ратаваннем архіўных матэрыялаў і заліўкай іх у воблачныя сховічшы. Цэлы дзвіж тут з гэтай нагоды. Вялікая колькасць касет і бабінаў з каштоўнымі запісамі фальклору 1950-1990-х гадоў не былі раней алічбаваныя. Гэта не ўнікальная сітуацыя: на жаль, усім такім установам звычайна бракуе людзей і рэсурсаў на падобную працу. То разам з іншымі валанцёрамі далучыўся да алічбоўкі па меры сіл", – піша Яўген.

Таксама ён зазначае, што для алічбоўкі архіваў удалося нават даставіць у Львоў два прафесійныя апараты. Іх у якасці гуманітарнай дапамогі Украіне передало Польскае радыё.

BelarusWithUkraine

навіны

# БЕЛАРУСЬ УВЯЛА БЯЗВІЗАВЫ ЎЕЗД ДЛЯ ГРАМАДЗЯН ПОЛЬШЧЫ

Раней візы адмянілі для жыхароў Літвы і Латвіі.

Беларусь уводзіць бязвізавы рэжым для грамадзян Польшчы. Ён будзе дзейнічаць з 00 гадзін 1 ліпеня па 31 снежня ўключна, паведамляе Дзяржпагранкамітэт.

Адзначаецца, што бязвізавы ўезд дазваляецца "ў мэтах падтрымання добрасуседскіх адносін".

Грамадзяне Польшчы могуць трапіць у Беларусь без візы праз пункты пропуску на беларуска-польскай мяжы. Ім будзе дазволена знаходзіцца ў памежнай зоне без пропуску. Пры ўездзе ў Беларусь ім трэба будзе вусна сказаць памежнікам, якія населеныя пункты і з якой мэтай яны збіраюцца наведаць у памежнай зоне.

Для ўезду ў Беларусь трэба будзе прад'явіць дакумент для выезду за мяжу і медыцынскую страхоўку, а для аўтамабіляў – зялёную карту. ПЦР-тэст і сертыфікат аб вакцынацыі не патрабуецца.

У красавіку Беларусь увяла бязвізавы рэжым для жыхароў Літвы і Латвіі. Ён дзейнічае да канца гэтага года.

novychas.online

# У БЕЛАРУСІ СКАСАВАЛІ АБМЕЖАВАННІ НА ПАСЫЛКІ З-ЗА МЯЖЫ

З 1 ліпеня адмяняецца ліміт у 22 еўра ды 10 кілаграм на пасылкі з замежных інтэрнэт-крам.

Цяпер запоўніць электронную дэкларацыю на пасылку давядзецца толькі калі яе агульны кошт, вага або колькасць тавараў перасягнуць ліміты, якія ўстанавіла Еўразійская эканамічная камісія (ЕЭК), паведамляе Нацыянальны прававы партал.

ЕЭК раней павялічыла для фізічных асоб ліміты цаны замежных пасылак, якія не будуць абкладацца мытнымі пошлінамі.

Цяпер замест 22 еўра – 1000 еўра. Вага бяспошлінных пасылак таксама ўзрасла з 10 да 31 кілаграма.

Паводле Польскага радыё

# ЛІТВА НЕ ЗБІРАЕЦЦА АДНАЎЛЯЦЬ ЧЫГУНАЧНАЕ ЗЛУЧЭННЕ З МІНСКАМ

Ні ў гэтым годзе, ні ў 2023-м.

Беларускі бок выказаў жаданне аднавіць пасажырскае чыгуначнае злучэнне з Вільняй, якое было спынена два гады таму.

На гэта ў Літоўскіай чыгунцы (Lietuvos gelezinkeliai, LTG) паведамілі, што Літва не плануе аднаўляць чыгуначнае злучэнне з Мінскам ні цяпер, ні ў 2023-м годзе.

novychas.online

in memoriam

# ПАМЁР ЖУРНАЛІСТ І ГУКАРЭЖЫСЁР З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ ЛУКАШ СТЭПАНЮК

Памёр журналіст і гукарэжысёр з Беласточчыны Лукаш Стэпанюк. Яму было 45 гадоў. Пра гэта напісаў у сябе ў Фэйсбуку яго калега Яраслаў Іванюк.



"Быў... Хаця гэтае слова ажно цяжка пішацца...

Як: "быў"...?

Лукаш Стэпанюк "Стэп" перш за ўсё быў добрым, сціплым чалавекам... Быў прафесіяналам у сваёй працы як гукарэжысёр і як журналіст...

Заўсёды стараўся дапамагчы ў кожнай справе. Памятаю як некалькі гадоў таму запісвалі аўдыякнігу з успамінамі Ларысы Геніюш "Птушкі без гнёздаў". Step (хаця я заўсёды звяртаўся да яго: Лукаш) дзеля гэтага аддаў сваю хатнюю студыю, а як аказалася, што на аплату працы не хапае грошай сказаў: "Ярэк, якія грошы? Ты пра што? Зробім. Зробім усё як трэба". Такое, зрэшты, ад яго чуў я не адзін раз: "Для беларускасці зраблю шмат і без грошай". Прычым ніколі тым не хваліўся, не хваліўся.

Апошнім часам займаўся гукаапрацоукай аўдыякніг. Падрыхтаваў "Сядзібу" Алеся Аркуша, працаваў над "Жэтонам на метро" Андрэя Федарэнкі і "Айчынай" Уладзіміра Арлова, якую рыхтаваў у версіі як аўдыя так і відэа.

Быў сябрам Управы фонду Kamunikat.org

Лукаш, не час адыходзіць...

Дзякуй Табе за усё... Мы ўсе будзем вельмі сумаваць па Табе...

Бывай, Дружа...

Вечная Памяць... Шчырыя спачуванні блізкім і родным..." – напісаў Яраслаў Іванюк.

budzma.org

## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2022 года

**1 ліпеня**

- 95 гадоў таму, у 1927-м, нарадзілася Зора Кіпель (дзяв. Савёнак), літаратуразнаўца, дзяячка эміграцыі. Памерла ў 2003-м.

**4 ліпеня**

- 50 гадоў таму, у 1972-м, у ЗША адкрыўся беларускі рэлігійна-грамадскі цэнтр "Белэр-Мінск" (Глен-Спэй, Нью-Йорк).

**5 ліпеня**

- 25 гадоў таму, у 1997-м, памёр Васіль Вітка (сапр. Цімох Крысько), пісьменнік.

**6 ліпеня**

- 85 гадоў таму, у 1937-м, нарадзіўся Пятро Драчоў, мастак. Памёр у 2005-м.
- 20 гадоў таму, у 2002-м, памёр Міхась Рагуля, культурны дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**7 ліпеня**

- 140 гадоў таму, у 1882-м, нарадзіўся Янка Купала, народны паэт Беларусі. Загінуў у 1942-м.
- 130 гадоў таму, у 1892-м, памёр Іван Чэрскі, геолаг, географ, даследчык Сібіры.

**9 ліпеня**

- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Сяргей Астрэйка, паэт. Расстраляны ў 1937-м.

**14 ліпеня**

- 110 гадоў таму, у 1912-м, нарадзіўся Пётр Гайдзель, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі і ЗША. Памёр у 1988-м.
- 30 гадоў таму, у 1992-м, памёр Аляксей Карпюк, пісьменнік.

**19 ліпеня**

- 45 гадоў таму, у 1977-м, памёр Іван Любачка, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.
- 125 гадоў таму, у 1897-м, памёр Аскар Авейдэ, гісторык.

**25 ліпеня**

- 125 гадоў таму, у 1897-м, нарадзіўся Антось Галіна (сапр. Міхась Міцкевіч), пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША. Памёр у 1991-м.
- 25 гадоў таму, у 1997-м, памерла Наталля Арсеннева, паэтка, дзеячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

**26 ліпеня**

- 70 гадоў таму, у 1952-м, нарадзіўся Генадзь Кулажанка, актывіст беларускамоўнага самвыдату ў 1970-х гг. Знік без вестак у 1981-м.
- 25 гадоў таму, у 1997-м, у Мінску пачаўся Другі з'езд беларусаў свету.

**28 ліпеня**

- 125 гадоў таму, у 1897-м, памёр Янка Лучына (сапр. Янка Неслухоўскі), паэт.
- 120 гадоў таму, у 1902-м, нарадзіўся Віктар Вальтар, пісьменнік. Памёр у 1931-м.
- 50 гадоў таму, у 1972-м, памёр Язэп Гладкі, этнограф, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.
- 25 гадоў таму, у 1997-м, памёр Лявон Луцкевіч, грамадскі і культурны дзеяч.

**30 ліпеня**

- 110 гадоў таму, у 1917-м, памёр Ян Курчэўскі, каталіцкі духоўнік, гісторык.

31 ліпеня

- 220 гадоў таму, у 1802-м, нарадзіўся Ігнат Дамейка, філамат, геолаг, нацыянальны герой Чылі. Памёр у 1889-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (241), чэрвень 2022
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com